"... каб не ўмерлі!"

# КОНКУРС ПРАЦЯГВАЕЦЦА

У красавіку арганізацыйны камітэт Таварыства беларускай школы абвясціў конкурс творчых работ ***"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай ..."***, у якіх прасіў вучняў 4-11 класаў напісаць лісты з пераканаўчымі словамі ў абарону роднай мовы. Гэтыя абвесткі змясцілі розныя газеты "Звязда", "Рэспубліка", "Народная воля", "Літаратура і мастацтва", "Настаўніцкая газета", "Зорка", "Наша слова", часопіс "Бярозка".

Толькі пачатак конкурса азнаменаваўся шматлікай і бясконцай плынню дзіцячых лістоў, у якіх выказваецца боль за лёс роднай мовы недаўменне паводзінамі некаторых старэйшых таварышаў, ад якіх залежыць яе развіццё. Бадай, няма такога раёна ў Беларусі, адкуль не чуўся б устрывожаны і па-свойму ўзбуджаны голас дзіцячы. Назавём вобласці ў тым парадку, адкуль прыйшло найбольшая колькасць лістоў да пачатку лета:

**Менская - , Менск - , Віцебская - , Гомельская - , Гарадзенская -, Берасцейская - , Магілёўская -** , Ад лідэрнай вобласці прыйшло 165 лістоў , Магілёўскай - 29.

Над падвядзеннем вынікаў працуе журы ў наступным складзе: Уладзімір Ягоўдзік - пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса "Бярозка" (старшыня), Алесь Лозка - дырэктар Беларускага навукова-метадычнага цэнтра гульні і цацкі (намеснік старшыні), Сяргей Запрудскі - мовавед, выкладчык кафедры гісторыі мовы Беларускага дзяржунівесітэта, Алесь Бадак - паэт, супрацоўнік часопіса "Бярозка" і педагогі навучальных устаноў г. Менска Рагнеда Аляхновіч, Алёна Дэц, Людзміла Чухрова, Алесь Сядзяка.

Было вырашана асноўны вынік конкурсу з уручэннем грамат і падарункаў падвесці да 3 лістапада 1998 г. На цяперашнім прамежкавым этапе (да 1 чэрвеня) ужо вызначаны ўдзельнікі, якія на асенніх вакацыях атрымаюць граматы ТБШ і ў самы бліжэйшы час льготныя пуцёўкі ў летнікі адпачынку ( з 3 верасня па 30 кастрычніка 1998 г.): **у Балгарыю —**

Уладзімір Зінчук (Гомель, СШ № 36, 5 кл.), Вераніка Камароўская (Орша, СШ № 5, 6 кл.);

**у Чэхію —**

Наталля Говарава (Менск, СШ № 208, 5 кл.), Максім Каржыцкі (Віцебск, СШ № 33, 8 кл.);

**у "Зубраня" (з 21 кастрычніка па 19 лістапада) —**

Кацярына Захарэвіч (Паставы, СШ №1, 7 кл.), Мікалай Хіла (Менск, СШ № 213, 9 кл.), Кацярына Худалей (в.Карпавічы Вілейскага р., 8 кл.), Святлана Яўсеенка (Гомель, СШ № 36, 7 кл.), ( з 24 лістапада па 24 снежня) — Гвяздзіцкая Ірына (Мікашэвічы, 6 кл.) , Вольга Чычкан (Гародня, 9 кл.), Таццяна Шугальская (Докшыцы, СШ № 1, 9 кл.).

Сярод калектыўных удзельнікаў асабліва вызначыліся вучні 7а класа СШ № 2 г. Клецка (настаўніца М.М.Шыкуць), Беларуска-славянскай гімназіі № 36 г. Гомеля, СШ № 118, 178 г. Менска і інш. Шкада, але маюцца і такія лісты дзе канкурсантамі не пазначаны не толькі нумар класа, але і сваё прозвішча.Наступны перададпошні вынік будзе падведзены да 14 верасня 1998 г. Пішыце нам зноў, запрашайце да ўдзелу ў конкурсе сваіх сяброў. Не забудзьце ўказаць сваё прозвішча і імя і свайго настаўніка, клас і школу, дакладны адрас і тэлефон.

Наш адрас : ТБШ, Някрасава, 5а, Мінск, 220040. Тэл. (017) 2324701.

Тут мы падаём прозвішчы адзінаццацікласнікаў, якім будуць уручаны граматы ТБШ за актыўны удзел у конкурсе.

Менск і Менская вобласць: Баркоўская В. (СШ № 143), Гнінская А. (ліцэй БДУ), Кіявіцкая Т. (СШ № 153), Мішур Н. (СШ № 52), Глускі А. (Маладзечна), Літвін А. (Лагойскі р.).

Віцебская вобласць: Абрамава В. (Віцебск), Ганчарова Н. (Чашнікі), Кірава А. (Аршанскі р.), Тухальская А. (Расонскі р.),Фянько В. (Глыбокае), Шарэнда А. (Сянно).

Гомельская вобласць: Асвяцкая Н. (Гомель), Касьянчык Р. (Калінкавічы), Падсасонны С. (Буда-Кашалёўскі р.).

Гарадзенская вобласць: Грудзінскі С. (Ліда), Супрон Л. (Шчучынскі р.), Шабан А. (Іўе).

Берасцейская вобласць: Александровіч А. (Баранавічы), Дзюрыч Э.(Драгічынскі р.), Ібрагімава Л. (Кобрынскі р.), Рудзіна А. (Бяроза), Сідарэнка Т. (Столінскі р.).

Магілёўская вобласць: Грамыка А. (Глускі р.), Кажэўнікава А. (Мсціслаў), Мірошкіна Л. і Новікава А. (Магілёўскі р.).

Жадаем далейшых поспехаў!

***Алесь Лозка, віцэ-прэзідэнт ТБШ.***

# Беларуская мова парушае правы чалавека

**Дырэктару Менскага аўтамабільнага завода Гурыновічу В.А.**

*Рада таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (220007, Мінск,в.Артылерыстаў 9-62)
Суполка ТБМ МАЗ (тэхнічны аддзел механазборачнай вытворчасці МАЗ).*

Паважаны Валянцін Аркадзевіч! Раённую Раду ТБМ, суполку ТБМ МАЗ непакоіць існуючы стан работы кіраўніцтва завода па адраджэнню дзяржаўнай мовы. На прадпрыемстве аддаецца абсалютная перавага мове ўроўненай у правах з беларускай--расейскай. Канчаткова спынена работа па пашырэнню выкарыстоўвання беларускай мовы, што не спрыяе стварэнню беларускамоўнага асяроддзя і забяспячэння адпаведных правоў чалавека. Многія кіраўнікі падраздзяленняў завода, у большасці Вашы намеснікі, валодаюць адной расейскай мовай, што з'яўляецца парушэннем Законаў аб мовах, аб грамадзянстве і інш. Аб гэтым сведчаць правядзенні нарадаў, сходаў і канферэнцый толькі на адной расейскай мове, што не спрыяе далейшаму вывучэнню беларускай мовы і павольнаму, непрымусоваму далучэнню да яе працоўных. На прадпрыемствах большасць адказных за справаводства асоб не валодаюць беларускай мовай. Ёсць факты, калі на пісьмовыя беларускамоўныя звароты адказы даюцца па-расейску. Спынена замена (ці падача іх двухмоўна) расейскамоўных шыльдаў, назваў прадпрыемства, яго падраздзяленняў, кабінетаў, арганізацый сацыяльнага прызначэння.

Нас здзіўляюць адносіны да выкарыстання беларускай мовы рэдакцыяй газеты "Аўтазаводзец", у якой поўнасцю выціснута дзяржаўная беларуская мова з ужытку. Матэрыялы, што дасылаюцца па-беларуску, перакладаюцца на расейскую мову.

Шчыра спадзяёмся, Валянцін Аркадзевіч, на Вашу свядомасць ва ўзнятых пытаннях і станоўчае іх вырашэнне.

Старшыня Рады ТБМ раёна Мікола Лавіцкі
Старшыня суполкі ТБМ МАЗ Браніслава Грэская


МІНСКІ АЎТАМАБІЛЬНЫ ЗАВОД
МИНСКИЙ АВТОМОБИЛЬНЫЙ ЗАВОД

**Старшыні Рады ТБМ Заводскага раёна М.Лавіцкаму,**
**Старшыні суполкі ТБМ МАЗ Б.Грэскай**

Паважаны пан М.Лавіцкі!
Паважаная пані Б.Грэская!

На ваша пісьмо за № 26 ад 23.04. 98г. павінен заўважыць, што на Мінскім аўтазаводзе законы аб мовах і аб грамадзянстве не парушаюцца. Кожны супрацоўнік прадпрыемства размаўляе і вядзе перапіску на той мове, на якой лічыць патрэбным. Дакументацыя вядзецца на адной з дзяржаўных моў — расейскай. На гэтай мове мы атрымліваем дакументы з Расеі, Украіны і іншых краін, з якімі мы супрацоўнічаем.

Нарады, сходы і канферэнцыі праводзяцца на той мове, якой валодае большасць прысутных. Гэта не супярэчыць Закону аб мовах. **Прымусовае выкарыстанне толькі адной з дзяржаўных моў з'явіцца парушэннем правоў чалавека.**

Газета "Аўтазаводзец" выдаецца на расейскай і беларускай мовах. Дасыланыя ў газету на беларускай мове матэрыялы будуць друкавацца на мове арыгінала.

З павагай,
Генеральны дырэктар В. ГУРЫНОВІЧ.

# ЦІ ПАТРЭБНА БЕЛАРУСАМ ЛІТАРА "Ї"?

Пытанне можа падацца бязглуздым, маўляў, усе кропкі над "ї" беларусы даўно расставілі. Аднак, хай тое застанецца маёй прыватнай думкай, якая ні да чога не абавязвае.

Упершыню такая думка ў мяне ўзнікла гадоў дзесяць таму, калі жыў яшчэ ў Латвіі і выпісваў газету "Літаратура і мастацтва". Латышская мова раптам стала дзяржаўнай ( хаця і без гэтага дакументацыя на прадпрыемствах да гэтага вялася па-латышску), я, аддаючы даніну модзе, пачаў канверты падпісваць лацінскімі літарамі, ў тым ліку і тыя, якія адсылаў на Беларусь. Якраз адсылаў допіс у "ЛіМ". На канверце, няведаючы чаму, напісаў: "Redakcyji hazety "Litaratyra i mastactva". Потым схамянуўся, што зрабіў памылку — трэба ж пісаць " redakcyi", а не "redakcyji". Перапісваць не стаў, адправіў з памылкай. Аднак зрабіў аналіз — наколькі гэтае пытанне ўвогуле актуальна. Узяў вялікі, на паўстаронкі, "ЛіМаўскі" артыкул і пазначыў у тэксце тыя месцы, дзе на маю думку, замік "і" можна напісаць " ї ". Такіх месцаў, як памятаецца, сталася звыш сарака. Ну, прыклад: **їх, маїх, мазаїка,салаї, Галандыї...**

Вы кажаце, што гэта — "украінскі варыянт"! Такое маўленне не характэрна для беларускай мовы! Не буду казаць пра ўсю Беларусь, але менавіта так вымаўляюць гэты гук на Глыбоччыне і "украіншчынай" тут не пахне, бо гэта ж вам не Палессе. Тым не менш, уся Глыбоччына і суседнія раёны скрозь усыпаны тапонімамі кшталту **Мамаї, Падгаї, Камаї, Кульгаї, Беляї, Шарабаї, Вераб'ї,** дзе гэты гук адчуваецца вельмі выразна і вымавіць яго па-іншаму проста немагчыма.

На працягу шмат гадоў я не вельмі тлуміў сабе галаву гэтым пытаннем. Скажы такое ўслых — засмяюць цябе ўсе філолагі. Аднак, год таму, у Глыбокім, краязнаўчыя доследы звялі мяне з адной сталай жанчынай — Геленай Сініцай. Бабуля лічыць сябе полькай і час ад часу папісвае ў газету "Glos znad Niemna". Бачыў у яе цэлы альбом з выразкамі сваіх артыкулаў. Баба Лена часта ўдзельнічае ў розных гарадскіх "тусоўках" на прадмет народнай творчасці, бо пляце саламяныя капялюшы. Між тым бабуля складае прыпеўкі і на добрай беларускай мове. Адна вельмі спадабалася. Прашу яе, каб напісала на паперу для мяне. Ейны адказ мяне засмуціў: "Па-расейску пісаць няўмею, а — толькі па-польску!" — Хай будзе так! — кажу ёй. Калі атрымаў тое, што прасіў, то быў **вельмі** здзіўлены. Аказваецца, з-за нашай вялікай "адукаванасці" мы часам не заўважаем відавочнае. Між тым, у лацінізаванай (польскай) транскрыпцыі баба Лена напісала ўсе "тыя" словы менавіта так, як яны вымаўляюцца: **swajich, jinszy, salauji, jich** і гэтак далей. Улічваючы тое, што на Глыбоччыне трошкі гаворань не так як на літаратурнай мове, бо напрыканцы дзеясловаў вымаўляецца канчатак -іць, -ець (жывець, едзіць), то гук "ї" ў некаторых варыянтах слоў можа сустракацца яшчэ часцей чым у літаратурнай мове: **бегаїць,** замік **бяжыць**. Усё гэта знайшло адлюстраванне ў напісаным бабуляй тэксце.

Вяртаючыся трохі назад, да тэмы **"расейскай" і "польскай"** моў, хацелася б адзначыць восб якую дэталь. Пад час прэзідэнцкай кампаніі давялося мне на роварах шмат паездзіць па Глыбоччыне, развозячы ўлёткі "За" Пазьняка. **Для мяне было адкрыццём,** што нават у блізкіх ад Глыбокага **праваслаўных** вёсках людзі сталага веку (гадоў 80-ці) не бралі ўлётак толькі таму, што "ня ўмеюць чытаць "па-расейску", а — толькі "папольску"!" На пытанне: **"За каго будзеце галасаваць?"**, казалі: "За каго скажуць, за таго й будзем!" Старшыня калгасу сказаў: "За" Лукашэнку! Чаму не "За" Пазьняка? — Таму, што ваш беларускі язык на хлеб не намажаш!

Гады два таму патрапіла мне на вочы ў Менску маладзёвае выданне "Litva", дзе сярод усяго я заўважыў тэндэнцыйнае напісанне некаторых слоў праз **"йі"** **(майіх, йіх)**. Выходзіць, што гэтае пытанне займае не толькі мяне. Дык, ці патрэбна беларусам "ї"?

***Уладзімір Скрабатун г.Глыбокае***

# А свістаць на іх не спрабавалі?

Напярэдадні дня Перамогі 8 траўня 1998 г. прадстаўнікі дэмакратычных рухаў і партый Ленінскага раёна (ТБМ, БНФ, ПЗС,БСДГ, АГП, Хартыя-97г.) наведалі Нацыянальны тэатр Я.Купалы. Глядзелі спектакль "Князь Вітаўт" А.Дударава. Зала была перапоўнена. Цудоўна ігралі акцёры. Мы апынуліся ў часы кіравання князёў Ягайлы і Вітаўта.

Закончыўся спектакль. Усе доўга стоячы дзякавалі акцёрам. І раптам на сцэну выйшла жанчына — прадстаўнік адміністрацыі прэзідэнта Ленінскага раёна і на расейскай мове пачала віншаваць ветэранаў з днём Перамогі. Тады з некалькіх месцаў залы пачулася: "Гавары па-беларуску!" Жанчына пачала апраўдвацца і сышла са сцэны. Яе праводзілі свістам. Выйшаў А.Дудараў і на чыстай беларускай мове павіншаваў усіх, хто ваяваў і чый лёс звязан з вайной, пажадаў моцнага здароўя. Мы выйшлі з залы ўзрушаныя гэтым цудоўным спектаклем. Мы яшчэ раз успомнілі нашу гісторыю і нашага славутага беларуса Вялікага князя Літоўскага Вітаўта. Нашая родная, дзяржавы, якая ў часы Вітаўта была адной з магутнейшых у Еўропе на працягу амаль 38 гадоў мае сваю гісторыю. Замаўчаць пра яе нельга і таму тое, што памяць пра тыя часы жыве, ёсць гарантыя таго, што наша Беларусь адродзіцца.

***Грузнова Т.У.***

